Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№46 (606) 17 лістапада 2011 года.

Кошт свабодны.

**Верхнядзвінскі раён**

# Мяжа на замку

■ Чэслаў Якубовіч.

**На прыбалтыйскім участку дзяржаўнай мяжы з абодвух бакоў няма калючага дроту і следавых палос.**

Аднак памыляецца той, хто думае трапіць лёгка на памежную тэрыторыю і знайсці сабе прытулак дзесьці ў Еўропе. Вось і ў Верхнядзвінскім раёне вечарам каля вёскі Баліны беларускія пагранічнікі затрымалі групу з пяці чалавек, сярод якіх было двое грузін. Затрыманыя без дакументаў на права знаходжання ў пагранічнай зоне беларусы патлумачылі на допыце, што сюды яны прыехалі з Полацка, а яшчэ некалькі грузінскіх грамадзян пайшлі на латвійскую тэрыторыю. Гэта інфармацыя беларускім бокам адразу была даведзена іх калегам з пагранічнай службы аховы граніцы Латвійскай рэспублікі. Праз некаторы час ужо паблізу горада Краслава латвійскія службоўцы затрымалі для далейшага разбіральніцтва, чаму нелегальна прабраліся ў Еўрасаюз трое грузін і адзін азербайджанец. На беларускай тэрыторыі з нелегалаў таксама спрага спыталі. Праўда, нелегалаў з Грузіі саджаць за краты не сталі. Ім быў выпісаны штраф у памеры 525 тысяч рублёў кожнаму, і абодвух выдварылі з памежнай зоны. Павесткі ў суд выпісаны і беларускім парушальнікам дзяржмяжы, якім таксама прыйдзецца расплачвацца за вольныя паводзіны на мяжы. А вось парушальнікаў у Латвіі, хутчэй за ўсё, можа чакаць турэмнае зняволенне на некалькі месяцаў, бо палітычнага прытулку ў падобных выпадках там не даюць. Для гэтага патрэбны важкія абставіны.




**Шаркоўшчынскі раён**

# Зноў на вышыні

■ Станіслаў Раманчук

**З добрым настроем завяршаюць сёлета сельскагаспадарчы год многія вяскоўцы, бо надвор'е спрыяла вырасціць і своечасова ўбраць багаты ўраджай.**

А для маладога механізатара адной з лепшых гаспадарак Шаркоўшчынскага раёна "Даватарскі" Дзмітрыя Ліпскага адыходзячы год запомніцца яшчэ і перамогай на чарговым абласным конкурсе прафесійнага майстэрства маладых аратых. На палях паблізу Оршы не было роўных Дзіму ў асабістым заліку ў класе трактароў МТЗ-3022 айчыннай вытворчасці. Гэта ў многім дапамагло камандзе Шаркоўшчынскага раёна, за якую выступаў яшчэ Дзяніс Кляпіко з гэтай жа гаспадаркі, стаць зноў лепшай на Віцебшчыне і абысці шмат іншых моцных калег з розных куткоў вобласці. Да новай сваёй прафесійнай вяршыні Дзмітрый Ліпскі ішоў некалькі гадоў і два папярэднія разы быў сярод прызёраў на гэтым конкурсе маладых механізатараў Прыдзвіння, дарэчы, адзіным такім у Беларусі. На гэты раз Дзіма паказаў добрыя веды тэорыі агранаміі і ўстройства сельгастэхнікі. Суддзям конкурсу прыйшлося выстаўляць яму высокія балы за ўменне падрыхтаваць да працы навясныя агрэгаты і правесці ідэальнае ворыва глебы. Таксама няўдрэнна на конкурсе выступаў і яго напарнік у класе энерганасычаных трактароў, які ў агульным выніку заняў 5 месца. Такому поспеху садзейнічала тое, што абодва хлопцы з сем'яў патомных хлебаробаў.

На роднай зямлі ўмелі плённа працаваць іх нашчадкі і бацькі, таксама калгасныя механізатары. У кабіне трактара паспеў ужо праехацца і сын-першынец Дзімы.

**Пастаўскі раён**

# І суседзі сталі красці

■ Кастусь Александровіч

**Па меры пагаршэння ўзроўню жыцця сталі расці розныя крадзяжы маёмасці як арганізацый, так і насельніцтва.**

Вось і ў Пастаўскім раёне толькі на працягу аднога месяца ў кастрычніку было ўзбуджана 28 крымінальных спраў па такіх фактах. Прычым цяпер "бруднымі справамі" могуць займацца нават суседзі альбо аднавяскоўцы. У адзін з восенькіх дзён у райаддзел міліцыя звярнулася жанчына з Мягун са скаргай, што з яе панадворку нехта скраў двух ладных парсючкоў. Як разабраліся следчыя Пастаўскага РАУС, на такі ганебны крок рашыліся суседзі, мясцовы 35-гадовы рабочы на пару са сваёй жонкай. Цяпер яны будуць адказваць у судзе за такую цягу да чужога дабра. А галоўнае, як у далейшым глядзець у вочы іншым сваім землякам, бо раней жыхары глыбінкі, калі і займаліся дробнымі крадзяжамі, дык болей з калгасных палёў альбо ферм, а суседзяў не было прынята такім чынам крыўдзіць. Наш час змяніўся і пайшла мода красці ўсё, што трапляе пад руку. Вось і ў райцэнтры агарод аднаго з гараджан абакраў сусед, на якога ніхто і не мог падумаць. Дарэчы, пайшла мода часцей за ўсё красці адны і тыя ж рэчы. У прыватнасці, найчасцей на Пастаўшчыне штомесяц крадуць, апроч гропай і прадуктаў харчавання, яшчэ веласіпеды і мабільныя тэлефоны. Сёлетняй восенню таксама пачасціліся выпадкі крадзяжоў металалому і яблыкаў, былі скрадзены радыятары ацяплення з закрытай вясковай школы.

# Лічба нумара

**1.8 млрд. USD** – такую суму летась і сёлета выдаткавалі адны з галоўных арганізатараў выпуску беларускіх суверэнных еўрабондаў буйныя замежныя банкі BNP Paribas і Deutsche Bank. Як вядома, нядаўна яны афіцыйна аб'явілі, што спынілі і не будуць у далейшым супрацоўнічаць з урадам Беларусі. Як ні круці, а гэта чарговая ў гэтым годзе непрыемная навіна.

Абодва банкі асабліва не сталі хаваць, што за такімі іх крокамі хаваецца палітычная падаплёка, хоць да 19 снежня 2010 года для беларусаўбула карысная такая дзелавая актыўнасць. Аднак цяпер нямецкія банкаўскія структуры публічна гавораць, што яны не будуць мець аніякіх сувязей з "беларускім рэжымам" у святле з нарматыўнымі прававымі актамі ЕС і ЗША па ацэнцы нашай унутрыпалітычнай сітуацыі пасля прайшоўшых выбараў. А вось у мінулым годзе нямецкія банкіры пасадзейнічалі размяшчэнню на еўрапейскіх рынках беларускіх каштоўных папер на 1 млрд. долараў.

Сёлета дэфіцыт замежнай валюты адчулі ўсе. Праўда, ужо пасля выбараў гэтыя банкі дапамаглі выпусціць і размясціць у пачатку студзеня беларускіх еўраабліагацый яшчэ на 800 млн. долараў. Беларускі Мінфін паспеў рэалізаваць гэтых каштоўных папер на такую суму, а потым неўзабаве прыйшла пара розных палітычных і эканамічных санкцый з боку еўрапейцаў і амерыканцаў. Да гэтага можна адносіцца з пазіцыі, а нам гэта не страшна, хоць на самай справе сітуацыя сур'ёзная.

Такі крок абодвух банкаў - сігнал для сур'ёзных замежных інвестараў аб тым, што не трэба звязвацца з беларускімі партнёрамі. На фоне антызаходняй рыторыкі беларускай афіцыйнай прапаганды нядаўна і трэці буйны еўрапейскі банк Royal Bank of Scotland спыніў любыя аперацыі па прыцягненні капітала ад імя Рэспублікі Беларусь. Сумна, а яшчэ зусім нядаўна нямецкі галоўны банк згадваўся як адзін з галоўных арганізатараў магчымых здзелак па прыватызацыі БелАЗа. Мінулым летам беларускі ўрад аб'яўляў ледзь не аб дасягненні паразумення, аб прадастаўленні нам крэдыту на 2 млрд. долараў праз "Беларуськалій".

І як снежны ком, беларускія каштоўныя паперы сталі імкліва падаць у цане. Ніхто з разумных людзей не стане купляць айчынныя еўрабонды, бо стаўкі па іх перавышаюць адпаведныя вельмі нізкія параметры аблігацый Грэцыі, якая цяпер на грані дэфолту. Няўжо і нам пагражае такі лёс, бо няма на каго спадзявацца, адзін расійскі банк удвая да 1 млрд. долараў зменшыў суму абяцаных нам крэдытаў. Але цікава, што нам "свеціць" у бліжэйшай перспектыве?

Зусім верагодна, што да канца года інфляцыя дасягне сумы з двума нулямі і ў лістападзе сёлета зноў дасягне двухзначнага рубяжа. Пакуль найбольш відавочна адно: праз некалькі месяцаў беларусы будуць у Адзінай эканамічнай прасторы з Расіяй і мы станем сведкамі прыватызацыі, лічы, узяццю пад поўны кантроль драпежнага расійскага капіталу найбольш прывабных кавалкаў беларускай эканомікі. А што было ў суседзяў на такім этапе раней? Правільна, значныя сацыяльныя ўзрушэнні. Мы можам хутка стаць сведкамі пачатку ў нас капіталізму па расійскім узоры.

На наша эканамічнае становішча можа паўплываць і абстаноўка ў свеце, і прагназуемае пагаршэнне і нават падзенне расійскай эканомікі на фоне зніжэння нафтавых і газавых цэн. Гэта мы ўжо праходзілі ў 2009 годзе, калі рэзка знізіўся попыт на нашы тавары на асноўным рынку збыту ў РФ. Прамыслоўцам прыйдзецца вытрымаць новую хвалю крызісу і непадкова, што ў Саўміне РБ цяпер разглядаюцца нават 5 сцэнарыяў развіцця беларускай эканомікі ў 2012 годзе. А вось новы тэхрэгламент АЭП на піва (асабліва на яго ўпакоўку) можа проста знішчыць гэту беларускую галіну. Ды і іншыя беларускія заводы і фабрыкі стануць працаваць ва ўмовах больш сур'ёзнай канкурэнцыі з партнёрамі па Мытным саюзе. Каб беларусы далей жылі лепш, чым цяпер, яны павінны прайсці праз рынкавыя рэформы, іншага проста не дадзена.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 17.11.11 | | | | пятн. 18.11.11 | | | | сб. 19.11.11 | | | | нядз. 20.11.11 | | | | пн.21.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +2 | +2 | +3 | +2 | +2 | +2 | +2 | +1 | +2 | +2 | +2 | +2 | +3 | 0 | 0 | -3 | +1 | +4 | +4 |
| Ціск, мм | 752 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 748 | 747 | 747 | 748 | 750 | 752 | 755 | 757 | 757 | 755 | 751 | 750 |
| Вільготнасць, % | 89 | 92 | 88 | 90 | 90 | 92 | 94 | 95 | 90 | 94 | 97 | 95 | 89 | 87 | 71 | 84 | 88 | 93 | 95 |
| Вецер м/сек | З 7 | З 7 | З 6 | З 5 | З 5 | З 4 | З 4 | Ю-З 4 | З 5 | З 3 | С-З 2 | З 3 | С-З 4 | С 2 | С 1 | Ю 4 | Ю-З 6 | З 6 | З 7 |
| | | 08:45 | 17:02 | | | 08:47 | 17:01 | | | 08:49 | 16:59 | | | 08:51 | 16:58 | | | 08:53 | 16:56 |
| | | 23:19 | 13:31 | | | - | 13:50 | | | 00:39 | 14:08 | | | 02:02 | 14:25 | | | 03:27 | 14:43 |

## Дзень за днём

**У пачатку месяца значна падаражэла жыццё беларусаў з-за новага росту цэн і тарыфаў. Толькі на старыя тавары цэннікі не падлягаюць акругленню ў Беларусі напярэдадні вываду з абарачэння банкнот 10 і 20 рублёў. Белстат вырашыў правесці ў 2012 годзе выбарачнае абследаванне прыкладна 400 тысяч суайчыннікаў, каб высветліць рэальны ўзровень беспрацоўя (называецца лічба 6,1 %) у краіне і ўзровень айчыннай замежнай працоўнай міграцыі. Беларускі ўрад паабяцаў увесці сёлета ўсё запланаванае жыллё (каля 6 млн. кв. метраў) і накіраваць на гэтыя мэты адпаведныя фінансавыя рэсурсы. У краіне ідуць дыскусіі наконт павышэння пенсійнага ўзросту і больш строгіх мер пакарання за язду ў нецвярозым стане.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Былы галоўны эканаміст МВФ, прафесар Гарвардскага ўніверсітэта Кенэт Рагоф заявіў, што праз некалькі месяцаў Грэцыі ўсё ж прыйдзецца пакінуць зону еўра.

**Расія.** Расійскі ўрад зноў адклаў лібералізацыю свайго ўнутранага газавага рынку на 4-7 гадоў насуперак пагадненням па АЭП, што ўскладніла перамовы па кантракце з РБ.

**Бельгія.** Прадстаўнікі вядучых партый краіны дамовіліся ў Брусэлі, што да 2025 года Бельгія адмовіцца ад эксплуатацыі атамных электрастанцый, а 3-х іх рэактараў – да 2015 года.

**Грэцыя.** Калі народ на рэферэндуме прагаласуе супраць праграмы фінансавай дапамогі ЕС, то краіну чакаюць імгненны дэфолт і новыя эканамічныя цяжкасці для людзей.

**Кітай.** Пасля запуску беспілотнага касмічнага карабля "Шэньчжоу-8" да модуля "Цяньгун-1" краіна стала 3-й у свеце, хто мае тэхналогіі касмічных стыковак на арбіце.

**Польшча.** Майстэрства экіпажа "Боінг-767" польскай авіякампаніі "LOT" дазволіла яму пасадзіць у Варшаве самалёт з Нью-Йорка з 230 пасажырамі на борце і з аварыйным шасі.

**Балгарыя.** Выхад краіны з крызісу балгары даверылі на выбарах новаму прэзідэнту Расэну Плеўнеліеву, ён зарабіў у будаўнічым бізнесе 50 млн. еўра.

**Расія.** Эксперты Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта пацвердзілі, што самалёт Як-42 разбіўся пад Яраслаўлем з-за памылак пілотаў, націснуўшых на тормаз пры ўзлёце.

**Японія.** У адным з рэактараў аварыйнай пасля цунамі АЭС "Фукусіма-1" зноў зафіксавалі ядзерную рэакцыю. Каб ліквідаваць небяспеку, туды сталі ўпырскваць борную кіслату.

**ЗША.** Ахвярамі моцнага снегападу на ўсходзе краіны сталі 8 чалавек, без электрычнасці засталіся 3 млн. жыхароў, месцамі таўшчыня снегу склала 80 см, адбыўся шмат ДТЗ.

**Іарданія.** У Чырвоным моры адбыўся моцны пажар на пароме, які вёз 1200 чалавек у Егіпет, ваенным удалося эвакуяваць на шлюпках пасажыраў, загінуў толькі 1 егіпцянін.

**Казахстан.** Пасля затрымання 24 экстрэмістаў, якія рыхтавалі тэракты, на захадзе краіны, у Атыраўскай вобласці двойчы ўзарваліся бомбы, падчас другога ўзрыву загінуў мужчына

**КНДР.** Сусветныя СМІ паведамілі аб жаніцьбе малодшага сына лідара самай закрытай краіны свету Кім Чэн Ына на прафесарскай дачцэ, яму неўзабаве могуць перадаць уладу.

**Ізраіль.** На святой гары ў Іерусаліме, дзе правёў свае апошнія дні Ісус Хрыстос, адбылося асвячэнне керамічнай дошкі-шыльды з малітвай "Ойча наш" на беларускай мове.

**ЗША.** Сёстры-блізняты Джэсіка і Джэніфер з гарадка Блумінгтон, якія выраслі разам, зацяжарылі паралельна, нарадзілі дзяцей, хлопчыка і дзяўчынку, у адзін і той жа дзень.

## Новы ўказ адводзіць тры гады на завяршэнне будаўніцтва жылых дамоў і дач



**Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №520 "Пра некаторыя меры па ўдасканаленні адносін у вобласці будаўніцтва, канфіскацыі і прадастаўлення зямельных участкаў". Мэта дакумента - актывізаваць узвядзенне індывідуальных жылых дамоў, скараціць колькасць даўгабуду. З 1 сакавіка 2012 года ўладальнікі ўчасткаў будуць пастаўлены ў даволі цвёрдыя рамкі: на завяршэнне будаўніцтва жылога дома ці дачы ім будзе адведзена тры гады.**

Па сутнасці, новы ўказ - паўтор пройдзенага. Ён аднаўляе дзеянне ўказу ад 7 лютага 2006 года №87 "Пра некаторыя меры па скарачэнні не завершаных будаўніцтвам незакансерваваных жылых дамоў, дач", які быў адменены ў лютым 2009 года. Тады паведамлялася, што адмена лімітавых тэрмінаў "дазволіць грамадзянам, разлічыўшы свае фінансавыя магчымасці, спакойна завяршыць пачатае будаўніцтва". Зараз жа часу на раскачку практычна не будзе.

Указам №520 усталявана, што мясцовыя выканкамы маюць права падоўжыць тэрміны будаўніцтва дамоў, але не больш чым на два гады і толькі па ўважлівых чынніках, напрыклад, немагчымасць завяршэння будаўніцтва з прычыны матэрыяльнага становішча. Таксама прадугледжваецца магчымасць кансервацыі не завершаных будаўніцтвам аб'ектаў не больш чым на тры гады.

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, кантроль за выкананнем указа ўскладаецца на мясцовыя выканаўчыя органы. Яны будуць надзелены правам канфіскацыі зямельнага ўчастка, будаўніцтва дома ці дачы на якім не завершана, ва ўстаноўленыя тэрміны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі РБ М. Снапкоў на нарадзе ва ўрадзе прызнаўся, што сёлета краіна за 8 месяцаў завезла бульбы на 12 млн. $ з Польшчы, Літвы і нават з Марока.

**Гомель.** Набыццём акцый кандытарскай фабрыкі "Спартак" і сталічнай "Камунаркі" зацікавілася ўкраінская карпарацыя "Roshen" вядомага алігарха Пятра Парашэнкі.

**Мінск.** Уступленне РБ у Адзіную эканамічную прастору з РФ, як заявіў вучоны Генадзь Грушавы, прынясе беларусам адны сацыяльныя ўзрушэнні і капіталізм расійскага ўзору.

**Петрыкаў.** А. Лукашэнка даручыў ураду Беларусі да канца месяца вызначыцца, каму з 6 патэнцыйных кампаній-інвестараў прадаць мясцовае радовішча калійных солей.

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ асвоілі выпуск дызпаліва класу Еўра-5 для арктычнага клімату да мінус 32 градусы, на ўнутраным рынку з'явіцца зімовы дызель (мінус 20 градусаў).

**Рэчыца.** У горадзе адкрылася ўнікальная для РБ і нават усёй СНД сучасная міні-ТЭЦ на торфе і адходах драўніны коштам 20 млн. еўра, яна дае цяпло і свет 15 тысячам людзей.

**Мінск.** Галоўнакамандуючы А. Лукашэнка прысвоіў воінскія званні генерал-маёраў кіраўнікам 6 абласцей і беларускай сталіцы, адказным за тэрытарыяльную абарону.

**Шклоў.** Падчас працы на лесапілцы ў мясцовай калоніі зламаў руку і рабро экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, калі цягаў бярвенні і паслізнуўся ў гумавых ботах.

**Кобрын.** Вечарам ля вёскі Віры на трасе на Гомель "Жыгулёнак" у цемры сутыкнуўся з прычэпам трактара, у выніку ДТЗ цяжкія траўмы атрымалі 4 пасажыры, з іх 2 дзяцей.

**Мінск.** Адзін з самых папулярных і танных рынкаў сталіцы Чэрвеньскі спыніць сваю працу 1 студзеня 2012 года, на яго месцы паўстане Іранскі гандлёвы цэнтр.

**Магілёў.** Гарадскія ўлады занепакоены масавымі крадзяжамі на вуліцах каля 200 металічных рашотак для ліўнёвай каналізацыі, кошт адной дасягае мільёна рублёў.

**Баранавічы.** Мясцовы гарнізон узяў шэфства над Ястрамбельскай школай-інтэрнатам, якая стала абласным ваенным кадэцкім вучылішчам на 220 месцаў для будучых вайскоўцаў.

**Нясвіж.** Мясцовы замак стаў аб'ектам новай краязнаўчай праграмы для дзяцей "Беларусь і я" на абноўленым спартыўна-забаўляльным тэлеканале "Беларусь-2" (былы "ЛАД").

**Гродна.** На тэрыторыі прыходу храма св. Марфы невядомыя злачынцы спалілі два царкоўныя аўтобусы "Мерседэс-спрынтар" 2002 і 2003 гг. выпуску коштам па 50 тыс. $.

**Мінск.** Упрыгожваннем XVIII Міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" стала расійская драма "Алена" А. Звягінцава і яшчэ 2 фільмы, адабраныя сёлета на Канскі кінафестываль.

## У Наваполацку з'явіцца трацейскі суд

Нафтаград стане першым горадам Беларусі, у якім грамадзянскія і гаспадарчыя спрэчкі можна будзе вырашыць пасродкам трацейскага суда.

Праца па стварэнні ў Наваполацку дзейснага філіяла Міжнароднага арбітражнага (трацейскага) суда "Палата арбітраў пры Саюзе юрыстаў" праводзіцца на базе юрыдычнага факультэта УА "Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт".

Прэтэндэнт на пасаду старшыні - дэкан юрфака ПГУ, кандыдат юрыдычных навук Аляксей Ягораў, паведамляе газета "Полацкі веснік".

Чакаецца, што трацейскі суд пачне сваю працу ў 2012 годзе, а пакуль будучыя арбітры трэніруюцца на базе гаспадарчага суда Віцебскай вобласці.

Паколькі Беларусь далучылася да міжнароднай канвенцыі пра арбітраж, рашэнні трацейскага суда будуць дзейнічаць і за мяжой.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Верхнядзвінск.** Фермы гаспадарак раёна зноў сталі лепшымі на Віцебшчыне па надоях малака, за 10 месяцаў на карову тут маюць амаль па 4700 літры пераважна сорту "экстра".

**Новалукомль.** Суполка Свабоднага прафсаюза ГРЭС запатрабавала павышэння зарплаты на 100 %, бо адсюль цэлымі брыгадамі з'язджаюць на заробкі па 800 долараў у Расіі.

**Орша.** Услед за сучаснай апаратурай для аздараўлення неданошаных дзяцей гарадскі радзільны дом абзавёўся і навейшай сістэмай хуткіх аналізаў крыві і гемаглабіну.

**Наваполацк.** Лідар на айчынным рынку дамафонаў, прыватная фірма "Белсплат" выдаткавала амаль 7 млн. еўра на ўзвядзенне яшчэ аднаго свайго міні-завода.

**Глыбокае.** Вечарам у вёсцы Галубічы 18-гадовы хлопец без вадзіцельскіх правоў на "Жыгулях" смяртэльна траўміраваў 43-гадовага веласіпедыста з гарпасёлка Падсвілле.

**Гарадок.** Да свайго 80-гадовага юбілею мясцовы аграрна-тэхнічны каледж атрымаў падарунак – новеньскі айчынны аўтобус МАЗ-256, тут стварылі і свой інтэрнэт-цэнтр.

**Віцебск.** На глебе непрыязных адносін раніцай у адным са студэнцкіх інтэрнатаў горада 17-гадовы навучэнец нечакана забіў 20 ударамі нажом свайго равесніка – суседа па пакою.

**Чашнікі.** На тэрыторыі 8 раёнаў вобласці ажыццявіла велапрабег да Браслава група энтузіястаў на чале з кіраўніком райспарткамітэта Аляксандрам Рундо.

**Паставы.** У двух з 11 намінацый IX нацыянальнага турконкурсу "Пазнай Беларусь" атрымаў узнагароды мясцовы прыватны цэнтр турысцкіх паслуг за лепшыя экскурсіі.

**Шаркоўшчына.** З запланаваных да ўводу да канца года 30 новых жылых дамоў у сельскай мясцовасці здалі пакуль толькі 19, не завершана ўзвядзенне шматпавярхоўкі ў райцэнтры.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрылася першая цырульня ... для кошак і сабак, якіх абслугоўваюць і мыюць двое майстроў, прайшоўшых спецыяльную падрыхтоўку.

**Дуброўна.** Раённы суд за здабычу незаконна сеткай 60 карасёў і лінёў пакараў 2 гадамі турмы і штрафам 12,3 млн. рублёў за нанясенне шкоды прыродзе браканьера, жыхара раёна.

**Віцебск.** ФК "Віцебск", як прызнаўся яго дырэктар Віталь Сталбіцкі, даўно б абанкроціўся, каб не прадаў у сярэдзіне сезону сваіх лепшых футбалістаў за 160 тыс. $.

**Орша.** Міліцыя затрымала 30-гадовага кантралёра аўтапарка з Віцебска, які ўночы на чыгуначным вакзале скраў банкаўскую пластыкавую картку і зняў з яе 3,1 млн. рублёў.

**Віцебск.** У абласным цэнтры каля дамоў у гістарычнай частцы горада прайшлі здымкі масавых сцэн асобных эпізодаў 8-серыйнага тэлефільма "Паляванне на гаўляйтара".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Кастусь Шыталь

# Жыхары Падсвілля правялі сход, каб абмеркаваць стан возера Алойзберг



**У мястэчку Падсвілле Глыбоцкага раёна 13 лістапада адбыўся сход, на якім мясцовыя жыхары абмеркавалі стан возера Алойзберг.**

Яны выказалі нязгоду з афіцыйнымі адказамі чыноўнікаў, у якіх сцвярджаецца, што вада чыстая. За апошнія дзесяцігоддзі прадпрыемствы і калгасы так запаскудзілі возера, што ў ім немагчыма купацца, як кажуць людзі.

Улады напачатку не пярэчылі правядзенню мерапрыемства. Нават дазволілі сабрацца ў гарпасялковай бібліятэцы. На сход меўся прыехаць і грамадскі актывіст Яўген Самсонаў з Глыбокага. Аднак за некалькі гадзін да сходу стала вядома, што Яўгена Самсонава падазраюць у правядзенні несанкцыяванай акцыі, ён быў папярэджаны па тэлефоне, таму там не прысутнічаў як журналіст.

Сход адбыўся і без Самсонава – у чытальнай зале бібліятэкі сабраліся каля дваццаці чалавек. Прыехалі прадстаўнікі дзяржаўных прыродаахоўных установаў з Глыбокага. Прыйшла старшыня Падсвільскага пасялковага савета Валянціна Пальчанка, якая заявіла прысутным, што сход несанкцыянаваны. Але нікога гэтымі словамі не напалохала.

Перад падсвільчанамі выступіў мясцовы жыхар Мар'ян Місевіч. Ён распавёў пра ініцыятыву па абароне возера Алойзберг, якая ўзнікла летам 2011 года. Тады каля 200 жыхароў Падсвілля падпісалі зварот да дэпутата палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Андрэйчанкі, просячы дапамагчы спыніць забруджванне возера. Нядаўна атрымалі адказ, які падпісаў міністр прыродных рэсурсаў В. Цалко: там напісана, што вада ў Алойзбергу чыстая.

Па просьбе старшыні пассавета Мар'ян Місевіч зачытаў тэкст адказу. *"Качественный состав воды не ухудшился…"*. *"Піць можна"*, – з іроніяй азваўся нехта з прысутных. *"Мониторинг будет продолжен…"* . *"Члены камісіі будуць купацца ў возеры"*, – пажартаваў спадар Мар'ян.

Толькі спадар Мар'ян скончыў чытаць адказ, пачалося гучнае абмеркаванне. Мясцовыя жыхары распавялі пра розныя крыніцы забруджвання возера. Па іх словах, бруд цячэ з вінзавода, які стаіць на беразе і са сценаў якога тырчаць сцёкавыя трубы. Каля рэчкі Галубіцы, што ўпадае ў возера, знаходзіцца звалка. Смецце скідвалі ледзьве не ў самую раку. Сёлета каля самай ракі сельскагаспадарчае прадпрыемства складзіруе гной.

Вясной на паверхні возера было шмат загінуўшай дробнай рыбы. *"Малёк памёр. Усё возера было ў мальку. Я выклікаў інспекцыю. Яны прыехалі, памерылі і паехалі. А тым часам возера ад гною перапіваецца як вясёлка. Сцяпанавіч выехаў – лодка аж перафарбавалася"*, – голасна абураецца рыбак Анатоль. Прыродаахоўная інспекцыя заявіла, што рыба гінула ад перавышэння канцэнтрацыі кіслароду, а рыбакі кажуць, што бачылі, як у возера цякла гнаявая жыжка з жывёлагадоўчага комплекса.

Падсвільчане прыгадалі аварыі з мінулых гадоў, у выніку якіх брудныя сцёкі траплялі ў возера і з помпавай станцыі камунгаса, і са льнозавода, і з ачысных збудаванняў, і з фермаў. *"У наша возера людзі баяцца сунуць нагу"*, – кажа Мар'ян Місевіч.

Падсвільчанін Сцяпан, які жыве каля берага Алойзберга, паказаў прысутным фотаздымак, зроблены ў 1957 годзе. На фота – бераг Алойзберга ў цэнтры Падсвілля. Бераг акуратны, мосцік і прыстань для лодак. Цяпер у гэтым месцы ўсё зарасло і накідана смецця. *"Я змагаўся за былы піянерскі пляж. Сам абкошваў яго. Хадзіў у ЖКГ, прасіў, каб урну для смецця паставілі – не паставілі. Сам бочку прынёс і прывязаў ланцугом, каб не знеслі"*, – кажа Сцяпан.

Як высветлілася, возера – не адзіная экалагічная праблема ў Падсвіллі. Качагарка вінзавода, у якой зменшылі вышыню трубы, дае шмат дыму на мястэчка. *"У нашым двары дыхаць няма чым. Снег чорны ад сажы. А вясной усё сцякае ў возера"*, – кажа жыхарка Падсвілля.

*"Мы будзем шумець, пісаць, але мясцовая ўлада павіннанаспадтрымліваць. Бо нам, па новых законах, больш за трое нельга збірацца"*, – кажа Мар'ян Місевіч. Прадстаўнікі ўлады сядзелі ціха ў канцы залы і толькі напрыканцы сходу ўзялі слова.

Начальнік інспекцыі прыродных рэсурсаў Мікалай Кміта на словах падзяліў заклапочанасць станам возера. *"Вось што крыўдна: ЖКГ зрабіла праект ачысных збудаванняў, але ніхто не дае грошай на іх пабудову. У адказе пішуць, што яны будуць пабудаваныя ў 2014-м годзе, але раней я бачыў планы пачаць пабудову ў 2012-м"*, - заявіў чыноўнік.

*"Сфатаграфуйце, калі будзе цячы з трубаў вінзавода, адрэагуем адразу"*, – дадаў М. Кміта. Нехта спытаў у яго, чаму аналізы вады бяруць далёка ад крыніц забруджвання. *"У санстанцыі ёсць стандарты і ёсць кропкі маніторынгу, па-за якімі яны не бяруць аналізаў"*, – адказаў чыноўнік.

Напрыканцы сходу Мар'ян Місевіч заклікаў прыняць рэзалюцыю ды зачытаў яе тэзісы. *"Адказ, які мы атрымалі, лічым за адпіску. Патрабуем рэгулярнага маніторынгу стану вады. Просім паскорыць будаўніцтва ачысных збудаванняў"*. Старшыня пассавета параіла напісаць больш мякка. *"Навошта больш мякка?"*. Ніхто больш не выказваў заўвагаў. Рэзалюцыю прынялі.

Змаганне за возера Алойзберг, верагодна, будзе мець працяг.



**Мар'ян Місевіч чытае падсвільцам афіцыйны адказ на зварот пра стан возера.** *Фота Кастуся Шыталя.*



**На сход прыйшло каля дваццаці падсвільчанаў.** *Фота Кастуся Шыталя.*

# Добрых слоў, як вядома, многа не бывае

**Паважаная рэдакцыя, добры дзень!**

Я, Нікіціна Любоў Міхайлаўна, з Падсвілля, ветэран педагагічнай працы, іду па жыцці са словамі Андрэя Дзяменцьева

"Как важно вовремя успеть
Сказать кому-то слово доброе,
Чтоб от волненья сердце дрогнуло,
Ведь всё порушить может смерть."

А добрых слоў, як вядома, многа не бывае. Дык вось я хачу сказаць добрыя словы і нізка пакланіцца таленавітаму, працалюбіваму калектыву мастацкай самадзейнасці Дома культуры Стрынадкі. Мне і раней даводзілася бываць на канцэртах гэтага калектыву пры Доме культуры і на выязных канцэртах, якіх у іх мноства. І заўсёды гэта былі імгненні асалоды майстэрствам гэтых адданых мастацтву людзей. А тут 25 верасня на асенні кірмаш сельскагаспадарчай прадукцыі ў Падсвіллі гэты калектыў прыехаў да нас. І на працягу ўсяго кірмаша прадаўцоў і пакупнікоў самадзейныя артысты радавалі, здзіўлялі і зачароўвалі сваім майстэрствам. Праграма канцэрта была цікавай і змястоўнай. Пачала канцэрт пад гром апладысментаў эстрадная група "Лада" (мастацкі кіраўнік Васількоўскі Уладзімір). Група маладая (ёй усяго 2 гады), але ўжо цалкам зладжаная. Удзельнікі гэтай эстраднай групы горача і эмацыянальна выканалі папулярную песню "Галіна". Яшчэ тройчы гэта прыгожая таленавітая група радавала нас сваім мастацтвам: яны выканалі "Каліну красную", "Познюю любоў", "Вандруючыя артысты".

34 гады кіруе гэтым калектывам дырэктар ДК Стрынадкі Святлана Аляксандраўна Васількоўская, жанчына працавітая, адданая сваёй справе. У яе калектыве, які стаў адзінай творчай сям'ёй, людзі рознага ўзросту, прафесій і захапленняў. Але аб'ядноўваеіхадно–любоў да культуры і мастацтва. Тут і доўгажыхар калектыву, старэйшы яго член, прадпрымальнік Уладзімір Бурэнь. Менавіта сямейная пара Васількоўскіх, Святлана і Уладзімір, дапамаглі яму пратапталі сцежку на сцэну, за што ён ім вельмі ўдзячны. Уладзіміру Бурэню аднолькава добра ўдаюцца і аўтарскія, і народныя песні. На гэты раз ён пранікнёна і душэўна выканаў "Берагі", "Гэтыя вочы насупраць". Дружнымі апладысментамі сустракалі і праводзілі гледачы медсястру Падсвільскай бальніцы Кацю Лютынскую, якая выканала "Ты глядзеў на мяне". А калі заспявала Каця "Як хацела мяне маці…", прысутныя падпявалі і падтанцоўвалі. У розных варыяцыях паўсталі перад гледачамі члены калектыву. Гэта і салісты: шафёр Пётр Рэкуць, які выканаў "Пясок", Васіль Харэвіч, які пазваў прысутных у "Волагду", Насця Вылеўка са "Спічкай". Гэта і дуэты: Насця Вылеўка і Іра Шабан, якія парадавалі гледачоў песняй "Так же, как все", Паліна Бажок і Іра Харэвіч, якія паўсталі сапраўднымі "Подружками". Заваяваў слухачоў сваёй манерай выканання і дуэт Пётр Рэкуць і Ірына Талкач, якія выканалі пад шквал апладысментаў "Забірай" і "Букет з белых ружаў". Нельга не сказаць добрых слоў пра салістку калектыву Ірыну Шабан. Задушэўна і пранікнёна ў яе выкананні прагучаў "Кожны дзень з табой". Але вышэй за ўсякую пахвалу (няхай прабачаць мяне члены калектыву), канечне, манера выканання, галасавыя дадзеныя, артыстызм, уменне трымацца і рухацца на сцэне ў Танечкі Васількоўскай. Зграбная, грацыёзная, вытанчаная, паўстала яна перад гледачамі з песняй "Куру". Не хацелася адпускаць яе са сцэны. І яна працягвала здзіўляць: "Луна-луна", "Каліна". Так! Нездарма заслужана абараняла Таня гонар Глыбоцкага раёна на многіх фестывалях і была ўдастоена Гран-Пры.

Дастойным заканчэннем канцэрта была выкананая ўсімі ўдзельнікамі калектыву песня "На пасашок". Сардэчны дзякуй і нізкі паклон вам, людзі, улюбёныя і адданыя мастацтву.

*З павагай і ўдзячнасцю*
*Л. Нікіціна.*

# Танкавая бітва пад Сянно – белая пляма гісторыі



■ Фадзей Шымуковіч, *краязнаўца, г. Дзісна.*

**У газеце "Народнае слова" №100 за 01.09.2011г прачытаў артыкул аўтара Сяргея Ляшука "Сімвал гераізму" аб тым, што ў цэнтры Сянно поўным ходам вядзецца добраўпарадкаванне новага памятнага месца, дамінантай якога стане танк ІС-3.**

Помнік будзе ўстаноўлены ў гонар падзей ліпеня 1941 года, калі ў выніку контрудара Чырвонай Арміі пад Сянно адбылася самая вялікая ў сусветнай гісторыі танкавая бітва. Ідэя ўвекавечыць тыя падзеі ўзнікла даўно, але толькі зараз ажыццявілася. Танк ІС-3 быў дадзены Міністэрствам абароны Беларусі. У канцы жніўня баявую тэхніку ўстанавілі на пастамент. На 6 верасня было прызначана ўрачыстае адкрыццё помніка з удзелам міністра абароны Беларусі генерал-лейтэнанта Юрыя Жадобіна. Танк будзе сімвалізаваць не толькі тыя памятныя падзеі першых дзён вайны, але і стане цікавым турыстычным аб'ектам.

Цяжкі танк ІС-3 (абрэвіятура расшыфроўваецца як "Іосіф Сталін") быў запушчаны ў серыйную вытворчасць у апошнія дні вайны і прызначаўся для прарыву ўмацаванняў праціўніка. Баявая маса танка 46,5 тоны, экіпаж 4 чалавекі, узброены 122мм пушкай, чатырма 7,62мм кулямётамі, таўшчыня брані 90мм, лабавой 120мм. Фактычна гэта крэпасць на гусенічным ходзе. Абцякаемая і прыплюснутая форма вежы садзейнічала рыкашэту снарадаў, якія ў яе траплялі. Аднак танкі ІС-3, ІС-2 і нават ІС-1 не мелі ніякіх адносін да танкавага пабоішча пад Сянно.

Успомніўся мне эпізод з майго студэнцкага жыцця. У 1965 годзе ў сувязі з 20-годдзем Перамогі нам, студэнтам-завочнікам, па гісторыі КПСС па тэме "Пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны" чытала лекцыю кандыдат гістарычных навук Лебедзева. У канцы лекцыі адзін са студэнтаў, ураджэнец тых месцаў, дзе адбылася танкавая бітва, запытаў, як магло здарыцца, што пад Сянно наша армія страціла такую вялікую колькасць танкаў? На гэта пытанне яна нічога не змагла адказаць, спаслаўшыся, што нічога не ведае пра гэту бітву. Ды і адкуль яна магла што ведаць, калі лекцыю чытала, не адрываючыся ад канспекта, які быў надрукаваны на карычневых лістах шматгадовай даўнасці.

Калі мы на перапынку сталі распытваць аб той падзеі аўтара пытання, то ён паведаў, што сам нічога толкам не ведае, таму што чуў ад людзей, прычым кожны з апавядальнікаў асвятляў падзеі па-рознаму. З часам гэтыя падзеі адышлі на другі план і падзабыліся.

Прачытаўшы вышэйуказаны артыкул, я са сваім дапытлівым характарам стаў шукаць матэрыял, які асвятляў гэту бітву.У першую чаргу звярнуўся да "Вялікай Савецкай энцыклапедыі". У дастаткова вялікім артыкуле "Вялікая Айчынная вайна" – ні аднаго слова. Звяртаюся да "Успаміны і разважанні" Маршала Савецкага Саюза Г.К.Жукава. У 10-м раздзеле "Пачатак вайны" Георгій Канстанцінавіч ні слова не сказаў аб танкавай бітве пад Сянно. Цяжка паверыць, што начальнік Генеральнага штаба не ведаў пра вынікі гэтай бітвы. Пытанні, пытанні!



Звяртаюся да Беларускай Савецкай энцыклапедыі і ў томе 3 на старонцы 243 знаходжу лаканічны запіс: "2 механізаваныя корпусы нанеслі контрудар з раёна на ПнЗ ад Оршы па флангу 3-й танкавай групы, якая наступала з Лепеля на Віцебск. Але абставіны не далі магчымасці развіць наступленне. Жорсткія баі разгарнуліся ў раёне Полацка, дзе дзейнічала 22 армія, і ў раёне Віцебска, які абараняла 19 армія. Моцным контрударам 19 армія прымусіла ворага спыніць наступленне на Рудню і Сураж. 11 ліпеня вораг захапіў Віцебск і плацдарм на Заходняй Дзвіне". Не густа, але ж ёсць арыенцір, што штосьці адбылося ў раёне Сянно. Звяртаюся да 12-томнага выдання "Гісторыя Другой Сусветнай вайны" (добра, што ўсе чатыры названыя выданні маюцца ў маёй асабістай бібліятэцы).

У томе 4-м на старонцы 46 чытаю: "У бітву паслядоўна ўступілі перадавыя злучэнні 22, 20 і 21-й армій. З 6 па 10 ліпеня 5-ы і 7-ы механізаваныя корпусы 20-й арміі генерала П.А.Курачкіна нанеслі контрудар па дывізіі 3-й танкавай групы на лепельскім напрамку ў р-не Сянно і затрымалі іх на некалькі дзён. На пераадоленне прасторы ў міжрэччы Бярэзіны і Дняпра фашыстам спатрэбілася каля тыдня". Таксама не густа, але абазначыліся нумары армій і корпусаў, якія ўдзельнічалі ў бітве.

У памяці ўсплылі факты, што дзесьці чытаў пра бяздарную контратаку гэтых корпусаў і, як вынік, у гэтай бітве кантужаным патрапіў у палон камандзір батарэі адной з танкавых дывізій старшы лейтэнант Якаў Джугашвілі (сын Сталіна). Пошукі ў архівах, якія складаюцца з цікавых мне газетных артыкулаў, прывялі мяне да артыкула "Невядомая танкавая бітва. Як згубіліся ў гісторыі 1770 танкаў і 70 тысяч чалавек", аўтар – пенсіянер Канстанцін Тычына. Аднак перш чым расказаць пра падзеі танкавай бітвы пад Сянно, лічу мэтазгодным увесці ў курс чытача і адказаць на пытанне: якія былі стратэгічныя абставіны на фронце і чым была выклікана неабходнасць гэтай бітвы.

У Прыбалтыцы 4 танкавая армія, 16-я і 18-я палявыя арміі вермахта нанеслі моцны ўдар па войсках Паўночна-Заходняга фронту, якім кіраваў генерал-палкоўнік Кузняцоў, і, нягледзячы на гераічную абарону войска Чырвонай арміі, фронт не вытрымаў удара і вымушаны быў адступаць. 8-я армія генерала Сабеннікава адступала ў паўночным напрамку, 11-я генерала Марозава ў паўночна-ўсходнім напрамку. Пад Вільнюсам пад ударамі танкавых дывізій 4-й танкавай групы і механізаванага корпуса 3-й танкавай групы панеслі вялікія страты і, рассечаныя на 2 часткі, прадаўжалі адступленне. Напрамак Каўнас-Даўгаўпілс застаўся без прыкрыцця. 56-ы матарызаваны корпус Манштэйна пачаў хутка прасоўвацца, не сустракаючы на сваім шляху супраціўлення да Заходняй Дзвіны.

Са Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання паступіў загад 8-й і 11-й арміям арганізаваць абарону і закрыць шлях да Заходняй Дзвіны. Ім быў пасланы рэзерв – 5-ы паветрана-дэсантны корпус, не да канца сфарміраваны, і 21-ы мехкорпус. Абарона аказалася нетрывалай. 1 ліпеня была здадзена Рыга. Пад ударамі 4-й танкавай арміі немцаў пачала адступаць і 11-я армія на Себеж і Невель.

Яшчэ больш складаная абстаноўка склалася на Заходнім фронце. 2-я танкавая армія Гударыяна прарвала фронт абароны 4-й арміі генерала Карабкова ў раёне Брэста і хутка стала прасоўвацца ў напрамку Ваўкавыска. 3-я танкавая група вермахта Гота прарвала нашу абарону 3-й арміі генерала Кузняцова і пачала кіравацца на Сувалкі. Абставіны ўзмацняліся тым, што нямецкая авіяцыя беспершкодна бамбіла нашу абарону, пераправы і адступаючае войска. Контратакі нашага войска не прыносілі жаданых поспехаў. За першыя 4 дні нямецкія войскі прайшлі ўглыб нашай краіны на 200км. Большасць войска 10-й арміі генерала Голубева і некаторыя дывізіі і корпусы 3-й і 4-й армій аказаліся ў паўакружэнні. Даводзілася весці баі, не маючы патрэбнага запасу боепрыпасаў і паліва.

Найбольш небяспечныя напрамкі прыкрывалі дывізіі 13-й арміі другога эшалона. 100-я стралковая дывізія генерала Русіянава з 26 да 30 чэрвеня прыкрывала Мінск у раёне Астрашыцкага Гарадка і нанесла значныя страты 39-му матарызаванаму корпусу немцаў, спаліўшы 33 танкі і адступіўшы са сваіх пазіцый, каб пазбегнуць акружэння. 28 чэрвеня, праравўшы слабую абарону 13-й арміі, 2-я і 3-я нямецкія танкавыя групы злучыліся ў Мінску. У раёне Навагрудка ў акружэнне папалі многія нашы войскі, якія змагаліся да 8 ліпеня, прабіваліся з баямі з акружэння.

Між войскамі Паўночна-Заходняга і Заходняга франтоў утварылася прастора, якая не ахоўвалася нашымі войскамі. А гэта Смаленскі напрамак. Група армій "Цэнтр" атрымала загад як можна хутчэй выйсці на рубеж Рагачоў, Магілёў, Орша, Віцебск, Полацк, перагрупаваць войска і нанесці ўдар на Смаленск, адкрываючы шлях на Маскву.

Напэўна, у гэты час, дзесьці ў пачатку ліпеня, нямецкі танкавы корпус з Лужкоў прыбыў у Дзісну з мэтай фарсіраваць Заходнюю Дзвіну. Нашы 22-я і 19-я арміі сустрэлі іх артылерыйскім агнём. Па словах некаторых старажылаў, адзін з нямецкіх танкаў затануў у Дзвіне, але ніхто яго не бачыў. Атрымаўшы адпор і не палезшы пад агонь, немцы з Дзісны перадыслакуюць танкавы корпус у раён Лепеля з мэтай нанесці ўдар на Віцебск праз амаль нікім не прыкрытую паласу. Вось тады Стаўка і вырашыла перакінуць з Маскоўскага ваеннага округа 5-ы і 7-ы механізаваныя корпусы і не толькі прыкрыць гэты ўчастак фронту, а і нанесці ворагу знішчальны контрудар. Тым больш, што сілаў і сродкаў для гэтага было б дастаткова пры граматным іх выкарыстанні.

Мехкорпус – асноўная вайсковая адзінка (злучэнне) для рашэння стратэгічнай задачы разбіць і рассеяць варожую групоўку. Па даваенным статуце ён павінен быў мець: 36 тысяч чалавек, 1031 танк, 268 бронеаўтамабіляў, 100 палявых гармат, 36 супрацьтанкавых гармат, 36 зенітных гармат, 186 мінамётаў. 5-ы мехкорпус меў 1070 танкаў, 7-ы – 700 танкаў, усяго 1770 танкаў.

Узнікла новая задача: спыніць наступленне на Смаленск і Маскву. Для гэтага ліквідаваць пагрозу прарыву нямецкіх танкавых корпусаў на Віцебска-Аршанскім накірунку. Маршал Цімашэнка, новы камандуючы франтам, прыхільнік ліхіх кавалерыйскіх атак, аддаў загад камандуючаму 20-й арміі нанесці контрудар і знішчыць варожую групоўку, што наступала з Лепеля на Віцебск. Зрабіць гэта было даручана 5-му і 7-му механізаваным корпусам: 5-му – наступаць на Сянно, Лепель, 7-му – на Бешанковічы, Лепель. Шэсць дывізій – 4 танкавыя і 2 механізаваныя. Корпусы толькі што прыбылі з Падмаскоўя, добра укамплектаваныя, пэўна ж, яны былі ў вышэйшага камандавання не з горшых, калі ў адным з іх, 7-м корпусе, служыў сын Сталіна – Якаў Джугашвілі – старшы лейтэнант, камандзір батарэі гаўбічна-артылерыйскага палка 14-й танкавай дывізіі.



Заканчэнне на стар.6

# Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Лес - адно з асноўных багаццяў нашай краіны і як мы будзем ставіцца да яго захаванасці, залежыць наша будучыня.**

Лясістасць тэрыторыі рэспублікі складае больш 37%. Нягледзячы на ўсё гэта багацце, праблемай застаецца нізкая ўдзельная вага саспелых дрэвастояў, драпежніцкае стаўленне да лесу. Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу, прычым выразаюцца самыя лепшыя дрэвы, забіраецца самая карысная частка дрэва, а астатняе кідаецца.

Так званыя «індывідуальныя прадпрымальнікі» вельмі часта карыстаюцца занятасцю, бескантрольнасцю, а часам і матэрыяльнай зацікаўленасцю леснікоў, купляючы 10 м.куб. дроў на законных падставах, затым вывозяць 20-30 м.куб. і больш па адным і тым жа дакуменце, на чым вельмі добра зарабляюць.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штомесяц выяўляюць такія факты і прыцягваюць вінаватых да строгай адказнасці, асабліва парушальнікі, актывізуюцца ў передзімовы і зімовы перыяд.

Асобныя грамадзяне нашага раёна не спяшаюцца звярнуцца ў лясгас ці сельскі Савет з нагоды нарыхтоўкі дроў, а самастойна спрабуюць іх нарыхтаваць у забароненых месцах і такія факты супрацоўнікамі міжрайінспекцыі выяўляюцца.

Так, 11 лістапада 2011 года жыхар Глыбоцкага раёна грамадзянін Г., у лясным масіве паблізу г. Глыбокае, незаконна паспеў высечы 16 дрэў, далейшыя неправамерныя дзеянні спынілі работнікі міжрайінспекцыі, склалі адміністрацыйны пратакол, накладзены значны грашовы штраф і прад'яўлены ўрон, сума якога супастаўная 10 м.куб. законна набытых дроў.

12 лістапада пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрыманы жыхар раёна, які ў лясным масіве паблізу в. Псуя Глыбоцкага раёна незаконна паспеў, выразаць 10 сырарастучых дрэў, якія нібы заміналі праехаць у лес за дровамі. Самастойна праکладзеная дарога абыйдзецца парушальніку ў добрую капейчыну.

Нярэдкія выпадкі вывазкі драўніны без неабходных дакументаў або без адзнакі службовай асобы лясгаса пра водпуск драўніны, такія парушэнні супрацоўнікамі інспекцыі перарываюцца, і вінаватыя нясуць адказнасць. Непамятлівасць вельмі дорага каштуе.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



## Падчас аперацыі «Арсенал» у насельніцтва канфіскавана амаль 700 адзінак зарэгістраванай і незарэгістраванай зброі

У Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі падведзены вынікі аператыўна-прафілактычных спецыяльных комплексных мерапрыемстваў «Арсенал». Яны праводзіліся з 31 кастрычніка па 4 лістапада.

Як паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, за розныя парушэнні канфіскавана 561 адзінка зарэгістраванай зброі. Таксама выяўлена 137 незарэгістраваных «ствалоў» і больш як тры тысячы боеприпасаў рознага калібру.

У выніку растлумачальнай працы з насельніцтвам у органы ўнутраных спраў добраахвотна здадзена 485 адзінак незарэгістраванай зброі (у тым ліку 93 наразной, 144 гладкаствольнай паляўнічай) і 563 зарэгістраванай, больш як 62 тысячы боеприпасаў рознага калібру.

Падчас аперацыі «Арсенал» за незаконны абарот зброі былі распачаты каля 50 крымінальных спраў, выяўлены 384 парушэнні адміністрацыйнага заканадаўства ў гэтай сферы.

МУС нагадвае, што грамадзяне, якія добраахвотна здалі зброю і боеприпасы, што захоўваюцца незаконна, ад крымінальнай адказнасці вызваляюцца.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## За незаконную рыбалку распачата крымінальная справа ў дачыненні да двух жыхароў Бярозы

Следчым аддзяленнем Бярозаўскага РАУС распачата справа на падставе ч. 4 арт. 281 Крымінальнага кодэкса (незаконная здабыча рыбы, якая мела вынікам нанясенне ўрону ў асабліва буйным памеры).

Як паведамілі БелаПАН у раённым аддзеле ўнутраных спраў, фігуранты крымінальнай справы — 49-гадовы і 60-гадовы жыхары Бярозы. Мужчыны 8 лістапада з 7 да 14 гадзін на абводным канале недалёка ад вёскі Мормажава вылавілі брадніком 542 асобіны рыбы (плотка, карась, карп, шчупак). Іх агульная вага склала 27,7 кг. Нанесены браканьерамі ўрон ацэнены больш чым у 5,8 млн. рублёў.

Супрацоўнікі міліцыі затрымалі мужчын з доказамі злачынства ў той жа дзень на адной з вуліц райцэнтра. Яны перавозілі рыбу ў аўтамабілі «ВАЗ-21063».

У браканьераў канфіскаваныя аўтамабіль, рыба, забароненая прылада лоўлі і два рыбалоўныя касцюмы.

Санкцыя ч. 4 арт. 281 прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў.

*Ларыса Шыганава, БелаПАН*

## МНС інфармуе на 15.11.2011 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1172;
Гібель людзей – 167 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4537,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 57;
Гібель людзей – 9, з іх дзяцей няма;
Урон – 532 670 132 руб.






## Куды пайсці вучыцца

ОТДЕЛ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ ГЛУБОКСКОГО РАЙИСПОЛКОМА проводит отбор граждан на службу в органы внутренних дел на должности рядового и младшего, среднего начальствующего состава. Приглашаются юноши в возрасте от 18 до 30 лет, имеющие среднее, среднее специальное, высшее образование, годные по состоянию здоровья к службе в Вооруженных Силах. Гарантируется высокая заработная плата, государственное страхование, возможность получения высшего образования.

Приглашаем выпускников средних школ района, а также граждан в возрасте до 25 лет продолжить обучение в учреждениях образования МВД Республики Беларусь: «Академия МВД Республики Беларусь» и «Могилёвский высший колледж МВД Республики Беларусь».

Для получения дополнительной информации обращаться в группу кадров Глубокского РОВД. Контактные телефоны: 2-25-39, МТС: 7118496, 3054034, ВЕЛКОМ: 3454034.

**Заканчэнне.**
*Пачатак на стар.5*

# Танкавая бітва пад Сянно

## – белая пляма гісторыі

У бой корпусы ўводзілі адразу, без папярэдняй разведкі праціўніка і мясцовасці, амаль без карт. Самалётаў не было нават для паветранай разведкі, не тое, каб для прыкрыцця танкаў. У першы дзень наступленне ішло даволі паспяхова: сходу збіваючы невялікія перадавыя варожыя атрады і разведгрупы, абодва корпусы паглыбіліся ў бок Лепеля на 40-60км. Затым ля рэчкі Чарнагосціца наступленне 7-га корпуса затрымала 7-я танкавая дывізія немцаў генерала фон Функа, якая мела 200 танкаў, амаль палова з якіх трафейныя чэшскія лёгкія танкі. Аб праціўніку ў штабе нашай 14-й танкавай дывізіі, якой патрэбна было наступаць на Бешанковічы і ўступіць у бой з 7-й нямецкай танкавай дывізіяй Функа, нават паняцця не мелі.

"На жаль,… дзейнічаць нам прыйшлося на "авось". Мы не ведалі, што перад намі – батальён, полк, корпус. Даразведваць не было калі", – успамінаў начальнік палітаддзела дывізіі В.Г.Гуляеў.

А з корпуса прыйшоў у дывізію загад: наступленне пачаць з раніцы з фарсіравання ракі.

Чарнагосціца – не з шырокіх, мелкая, але берагі забалочаныя. Заходні – высокі, абрывісты, усходні – нізкі, забалочаны, з далёкім аглядам. Прырода быццам памагала ворагу зрабіць непрыступную абарону. Танкам брод не прайсці, сядуць і стануць добрай мішэнню для артылеры праціўніка. Трэба будаваць пераправы. Дзве пераправы. Увесь вечар і ночь сапёры ўкладвалі бярвенні ў пераправы. Немцы ўсё гэта добра бачылі і разумелі, што і для чаго, але ні ў чым не перашкаджалі. Самі ўкопвалі ў зямлю свае танкі, устанаўлівалі насупраць рускіх пераправ на прамую наводку свае супрацьтанкавыя батарэі.

Граматны камандзір ведае: калі праціўнік закопвае ў зямлю танкі, акопваецца, ашчаціньваецца гарматамі і кулямётамі, то ніякай сілай адтуль яго не выкурыць. Атакі ў лоб – самагубства. Лепш абысці з флангаў, зайсці яму з тыла. Бесперспектыўнасць атакі разумеў камандзір танкавай дывізіі палкоўнік Васільеў, гэта разумеў і яго штаб. Свае думкі выказалі камандзіру корпуса генералу Вінаградаву. Але генерал пацвердзіў загад: "Наступаць!"

І раніцай танкавая дывізія без папярэдняй артпадрыхтоўкі, без прыкрыцця з паветра двума калонамі насустрач свайму знішчэнню, пачала фарсіраваць раку і франтальна наступаць на добраўмацаваную абарону немцаў. Спачатку тыя не стралялі: хай глыбей заходзяць у пастку, заплюджваюць прыкрытую абрывістым берагам заходнюю прыбярэжную паласу. А як толькі сталі танкі падымацца на абрыў, пераадольваць яго – тут жа трапілі пад меткі, перакрыжаваны агонь супрацьтанкавых гармат і танкавых гармат танкаў, закапаных у зямлю. З'явілася нямецкая авіяцыя. Ад выбухаў снарадаў і бомбаў нашы танкі загараліся, ссоўваліся з абрыва ўніз, перакульваліся і падалі ў раку ці балота. Усё больш і больш танкаў, падышоўшых з пераправы, ўзбіраліся на абрыў і зноў падалі ўніз на вузкім узбярэжжы. Цемната ад дыму, артылерыйская кананада, нічога не разабраць. Бронемашынам няма дзе размінуцца, сутыкаюцца, наязджаюць адна на адну і засядаюць у балоце. А ззаду націскаюць падыходзячыя да пераправы новыя танкавыя роты і батальёны і аказваюцца ў тым жа пекле. Гэтая бітва была больш падобна на гульню ў шашкі "паддаўкі" або праверку нямецкіх наводчыкаў гармат на трапнасць стрэлаў па мішэні, якая рухаецца.

Няўдалымі аказаліся баявыя дзеянні і іншых дывізій. Сіла дзясяткаў тысяч салдат і камандзіраў, 1770 танкаў, тысяч гармат, дастаўленых на Віцебшчыну з Падмаскоўя, не была выкарыстана. Вышэйшае камандаванне не змагло наладзіць арганізацыю войск, узаемадзеянне розных іх відаў. Контрудар праваліўся, за 2 дні баёў зніклі 2 лепшыя корпусы (5-ы і 7-ы), што аблегчыла праз некалькі дзён немцам прарыў абароны ў раёне Смаленска.

Узводзімы ў Сянно помнік "Сімвал гераізму" – помнік гераізму тых салдат і афіцэраў, якія, выконваючы бяздарныя загады бяздарных генералаў, склалі свае галовы на полі брані. І не іх віна, а іх бяда, што яны коштам свайго жыцця не прынеслі перамогу ў дадзенай канкрэтнай бітве. Імёны многіх з іх мы сёння не ведаем і не будзем ведаць ніколі. Дэвіз "ничто не забыто, никто не забыт" – пусты гук і не больш. Ці даведаемся мы больш падрабязна і праўдзіва, як разгортваліся падзеі на палях бітвы гэтых загубленых двух корпусаў? А вось імёны тых, хто бяздарна паставіў пад удар такую масу баявой тэхнікі і асабістага складу, мы прачытаем на гэтым помніку.

Хочацца спадзявацца, што знойдуцца людзі, якія валодаюць звесткамі аб гэтых трагічных падзеях і падзеляцца з намі на старонках газеты.

